


**Аб'язны тэатр апраўдоўвае сваё існаванне**



**Майсеневы падарункі**



**Ваенная хітрасць**

# МАЙСЕНЕВЫЯ ПАДАРУНКІ

Пад старэнькімі дахамі драўлянай Нарвы звычайна спіць цішыня. Толькі часам заграхоча матацыкл ці праімчыцца нейкая легкавая машына, або аўтобус дзяржаўнай камунікацыі выкіне са свайго трыбуха падарожных.

Ізноў брук вузенькіх вуліц атульваецца спакоем, успамінаючы сваё прошлае, калі сёняшняя вёска Нарва ганарылася тым, што была горадам Нарвай.

Вось адна з вуліц Нарвы. У перспектыве драўляныя, тыповыя для вёскі, пастарэлыя дамы. Але вуліца на гэты раз не спіць. Там, дзе яна пачынаецца — ля рынку — чалавек 20—30 з рыдлёўкамі, з вёдрамі і другімі прыладамі. Працуюць. Сярод нагружанай зямлі, каменняў і дошак абшырным прастаvугольнікам вырысоўваецца кшталт фундамента.

Падыходжу бліжэй.

— Выбачайце, — звяртаюся да працуючых людзей, — што тут будзе, што вы робіце?

Нейкі чалавек у гумовых ботах, у майцы, распрастоўвае плечы, глядзіць на мяне. Пад тоўстым слоем пылу, што прыліп да твару, бляскам сонечных праменняў зіхацяць яго, быццам знаёмыя мне, вочы.

— А-а-а, добры дзень «Ніва»! Вітаю, — весела адзываецца ён і замест адказу працягвае руку на правітанне.

Ах, так! Як жа я адразу не пазнаў?! Гэта ж добры наш супольны знаёмы, старшыня праўлення Гайнаўскага ПЗГС Кастусь Майсеня — чалавек, якога ведае кожны жыхар Гайнаўскага павета. Дык што павета! Слава аб ім дайшла ўжо аж за мяжу нашай краіны. У Гайнаўку прыязджалі ж замежныя журналісты, каб узяць ад яго інтэрв'ю аб вялікім тварэнні Гайнаўскага ПЗГС-у, аб пабудове вясковых крам. Вядома, дзе паявіцца старшыня Майсеня са сваімі людзьмі — там не паспееш агледзецца, а ўжо як грыб пасля дажджу стаіць крама... Ды якая крама! Шкло і метал. Проста жаль назваць яе вясковай. А можа і не жаль, мо' наадварот — **перш за ўсё вясковай, гэтай вёскі, якая зараз толькі што выклёўваецца ў сваім будучым кшталце.**

Прыпамінаю пачатак. Было гэта летам 1961 года. Старшыню Кастуся Майсеню сустрэў я ў вёсцы Старое Беразова.

— Запланавалі мы будаваць тут новую краму, — паінфармаваў мяне старшыня. — Трэба заахвоціць людзей, каб памаглі нам грамадскім чынам.

Дамы вёскі патаналі ўжо ў вячэрнім змроку, але жыхары Старога Беразова ўсё яшчэ не прыходзілі на назначаны сход. Быў жа гарачы перыяд палявых работ. І тады старшыня Майсеня папрасіў солтыса і мяне, каб разам пайшлі ад хаты да хаты тлумачыць сялянам, чаго ад іх патрабуе Гайнаўскі ПЗГС.

На другі дзень выпала нядзеля. Раненька, проста з першымі сонечнымі праменнямі, сустрэліся мы ізноў за вёскай на раней вызначаным месцы. Крок далей пераліvалася на ветры даспяваючае жыта. Тэхнік будаўляны вызначыў шнуркамі контур будучага будынку, размеркаваў шырыню і глыбіню фундаментаў, і людзі ўзяліся за працу. Прышло чалавек 30—40, пераважна моладзь. Адны капалі, другія пад-


**(Працяг на стар. 4)**




**Разлажыстыя галіны старой грушы ветліва маняць адпачыць у іх цені ад спякоты жнівеньскага сонца.**

Фота В. Рудчык





**ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА**

№ 31 (388) | ГОД VIII | 4 ЖНІЎНЯ 1963 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.


# АБ'ЯЗДНЫ ТЭАТР АПРАЎДОЎВАЕ СВАЁ ІСНАВАННЕ

У сваім артыкуле «Аб тэатры», змешчаным у 28 нумары «Нівы» ад 14. VII. г. г. Вера Леўчук, не адмаўляючы патрэбы існавання Беларускага дзяржаўнага тэатра, не бачыць у сучасны момант адпаведных умоў для ажыццяўлення пастановы IV З'езда БГКТ у гэтай справе. Прыводзіць яна «аргументы», якія маюць сведчыць аб нежыццёвасці, нерэальнасці гэтага вялікага мерапрыемства ў канкрэтных умовах Беласточчыны. Паклікаецца яна на вопыт Беластоцкага тэатра, сцвярджаючы між іншым, што «выяздная група (значыць упрошчаная) тэатра імя Вянгеркі з цяжкасцю выступае на павятовых сцэнах, а куды ж ужо гаварыць аб мястэчках і вёсках. Тэатр мае свае патрабаванні, свае вымогі і нічога на гэта не парадзім».

З гэтага вынікала б, што няма аб чым марыць, што нават выязная група беларускага тэатра не мае перспектыў на сваё існаванне, што яна не зможа зыйсці ніжэй павятовых гарадоў, не даедзе да беларускай вёскі.

Разважаючы вышэй сказанае, прыйшла якраз нам на думку праца вядомага ў нашай краіне аб'язднога Дзяржаўнага тэатра Мазавецкай зямлі з сядзібай у Варшаве. Звяртаемся з просьбай да дырэктара гэтага тэатра Мечыслава Маршыцкага, каб расказаў нам аб працы тэатра, якім ён кіруе. Вось што пачулі мы ад дыр. Маршыцкага.

Дзяржаўны тэатр Мазавецкай зямлі існуе ад 1 студзеня 1956 года. Мэтай яго з'яўляецца абслугоўванне гарадоў і вёсак Варшаўскага ваяводства. У тэатры працуе 40 акцёраў, якія падзяляюцца на тры выяздныя групы. Якраз такія «лёгкія і вольныя», аб якіх марыць В. Леўчук. Гэтыя невялікія тэатральныя групы даязджаюць да кожнай вёскі, у якой існуе святліца, школа ці раміза пажарнай каманды.

— А калі няма нават такіх элементарных умоў у вёсцы, што вы тады робіце? — задаем пытанне дыр. Маршыцкаму.

— Наш тэатр, — пачулі мы ў адказ, — з'яўляецца адзіным у Еўропе плаваючым тэатрам. Тэатр атрымаў да сваёй дыспазіцыі барку, на якой у летні перыяд адбываюцца спектаклі. З маленькіх прывіслянскіх вёсачак прыходзяць гледачы ў тое месца, у якім спыняецца барка на спектакль. На агульную колькасць 430 спектакляў у год, 70 спектакляў Тэатра Мазавецкай зямлі адбываецца на вадзе, на барцы. Групы Тэатра Мазавецкай зямлі ў бліжэйшыя аколіцы выязджаюць сваім транспартам на адзін дзень, вяртаючыся пасля спектакляў у Варшаву. У далейшыя мясцовасці выязджаюць на некалькі дзён, начуючы ў гасцініцах павятовых гарадоў, ці проста ў вёсках. Нашыя тэатральныя групы, — сцвярджае дыр. Маршыцкі, — надзвычай аператыўныя, яны даязджаюць да найбольш адлеглых куткоў Мазоўша. Ніводнаму з тэатраў у Польшчы (у тым таксама і імя Вянгеркі ў Беластоку), маючых выяздныя тэатральныя групы, не ўдаецца дайсці да вясковага асяроддзя. Ніжэй павятовых гарадоў яны не заглядаюць. Вось у тым нашая перавага над імі. Калі ёсць ахвота, можна знайсці ўсе магчымасці, найбольш разнастайныя формы, каб данесці мастацкае слова пад вясковую страху.

Задаем чарговае пытанне:

— З якім рэпертуарам Тэатр Мазавецкай зямлі прыходзіць у вясковае асяроддзе?

— Перасталі мы трактаваць вёску, — адказвае дыр. Маршыцкі, — як «цёмную масу», да якой трэба прыходзіць з найбольш прымітыўным матэрыялам. Пасля прэм'еры спектакля, якая адбываецца на Варшаўскай сцэне, пасля праверкі, як ён успрымаецца гледачамі горада, едзем са спектаклем у вёскі і даходзім да вываду, што найцяжэйшы драматычны твор не менш глыбока ўспрымаецца жыхарамі вёскі, як горада. Вясковае насельніцтва надта ўражлівае. Найбольш глыбока перажывае яно спектаклі з моцным драматычным ці гумарыстычным акцэнтам. А такія акцэнты маюць п'есы Славацкага, Брэхта, Шэкспіра, Кручкоўскага і іншых, уваходзячых у наш рэпертуар.

Паводле В. Леўчук сучасны тэатр перажывае крызіс. «Чаго толькі не робіць існуючы Беластоцкі тэатр, — піша В. Леўчук, — каб прыцягнуць гледачоў, а яны не ідуць.


**(Працяг на стар. 5)**




**У СОНЕЧНЫМ КУПАННІ**

Фота К. ЛЕС

 




# Ваенная хітрасць

**РЫГОР ЛЯСУН**

**(З УСПАМІНАЎ СТАРОГА САЛДАТА)**

Наша рота спынілася ў пустой, толькі што ачышчанай ад немцаў, вёсцы. Жыхары яе сядзелі ў лесе і чакалі зручнага моманту, каб вярнуцца ў свае сялібы. Застаўся толькі адзін гаспадар. Не здолеў ён вывезці ў лес усіх сваіх пажыткаў і вырашыў пільнаваць іх на месцы.

Хата гэтага гаспадара стаяла блізка дарогі і была прасторнай. У ёй і пасяліўся штаб роты.

Штабісты, да якіх, як сувязны, залічваўся і я, завіхаліся пры ўладкаванні новай стаянкі. Памагала нам дачка гаспадара, пульхненькая, кірпатая Марыся. Была гэта надзвычай даверлівая дзяўчына. І хіба таму, калі мы закончылі сваю работу, апынулася яна ў цэнтры нашай увагі.

Адны напрашваліся дроў прынесці, другія — схадзіць за вадой, трэція проста расказвалі анекдоты. Адзін я маўчаў.

Мая маўклівая прысутнасць відаць нервавала дзяўчыну, яна пачала мяне выразна какетаваць, а калі развітваліся, спытала:

— Чаму вы такі сумны?

— Вайна, — бездапаможна тлумачыў я.

Марыся паціснула толькі плячыма.

Пакінулі мы яе і выйшлі з хаты.

На дварэ стаяў цёплы ліпеньскі вечар. Па калдобістым вясковым бруку грукаталі фурманкі, наладаваныя розным сялянскім дабром. Вярталіся ўцекачы.

Сержант Капач адклікаў мяне ўбок і сказаў:

— Не ўлазь у дарогу!

— Ты здурэў?!

— Спыніць гутарку. Ведаем мы такіх...

Якіх — не даказаў, але і так вымусіў ад мяне слова, што заляцацца да Марысі не буду. Ці ж выпадала з-за дзяўчыны настройваць супроць сябе не так ужо малы ў маштабах роты чын? Ды пры Капачу, які ў залётніцтве праяўляў вялікі талент, я і так не меў ніякіх шанцаў.

Раптам усё ўскладнілася. Раніцай прыйшоў загад размясціць узводы па акрузе. Намячалася прачоска тутэйшых лясоў.

Да аднаго з узводаў прымацавалі сержанта Капача. Ён хадзіў сам не свой. І мучыла яго не столькі разлука з Марысяй, колькі тое, што заставаўся на месцы я.

— Сцерва! — пагразіў ён мне кулаком, калі я спрабаваў жартаваць. — Трапіш у мае рукі — не прасі літасці.

Але падвяргнуцца сержантаваму гневу не давялося. Якраз у той час, калі я збіраўся наведаць Марысю, выклікаў мяне камандзір роты. Я неадкладна з'явіўся і адрапартаваў:

— Сувязны роты прыбыў па вашаму выкліку!

Сёння, як ніколі, выглядаў я дысцыплінаваным салдатам. Рукі ў мяне былі па швах і гімнасцёрка зашпілена на апошні гузік.

Мой нештадзённы выгляд здзівіў камандзіра. Ён з цікавасцю ўзіраўся на мяне. Яго губы склаліся ў ветлівую ўсмешку. Сцяміўшы, камандзір змяніўся на твары. Пачаў яхідна ўсміхацца, а вочы яго гаварылі: «Не цешся сваімі ўдачамі, аб іх вырашаю я».

Але сказаў:

— Вось што: узяць у пісара паперы і даставіць узводам. Ясна?

— Ясна, таварыш камандзір роты, — адказаў я па ўставу. — Дазволіце ісці?

— Ідзіце, — адказаў у тон мне камандзір, але калі я, зрабіўшы на абцасе паўзварот, накіраваўся да дзвярэй, спыніў ён мяне і, адкінуўшы службовую форму, параіў:

— Глядзі, каб не напароўся на каго. Немцы ў аколіцы. Помні пра заданне.

«Заданне» — іранізаваў у думках я начальніка, пакідаючы яго хату.

У маім распараджэнні былі тры віды транспарту: двухножны, двухколавы і верхавы. Ісці пяшком нанач я не выяўляў найменшай ахвоты. Панскі тарантас з эпохі цара Гароха, не выклікаў зноў асаблівага даверу. Тады заставалася ехаць верхам. Гэта нават было мне па душы. Я разважаў:

«Калі ноччу ідзеш адзін па лесе, у цябе складаецца прыкрае ўражанне бяссілля. Калі едзеш на павозцы — ты — спутаны ёю. А сядзь толькі ў сядло, адразу адчуеш усю чалавечую магутнасць: ты і конь — адзінае арганічнае цэлае».

У той час любіў я коні, і, бадзёра напяваючы «Эх, вы коні, вы, коні сцяпныя», пайшоў да конюхаў. Што спяваецца не «сцяпныя», толькі «стальныя» даведаўся я потым, а пакуль іншых коней не прызнаваў.

Я быў вельмі засмучаны, калі мне сказалі, што мой любімчык Фарсун у выездзе. У хляве былі коні хворыя і заезджаны Лысы.

На бязрыб'і і рак рыба. Прыбраў я Лысага кавалерыйскімі прыладамі, захапіў у штабе паперы, павесіў на грудзі аўтамат і замацаваўся ў сядле.

Тут мая тэорыя арганічнага адзінства пацярпела бязлітасны крах. Стары, выслужаны конь апусціў маркотна мызу і ўтаропіў памутнелы зрок у зямлю. Здавалася, вось-вось ён упадзе.

Для паўнаты карціны трэба дадаць, што Лысы быў мізэрнага росту і мае доўгія ногі ледзь не датыкалі яго капыт.

Усё ж такі вырашыў я ехаць верхам. Тым больш, што Лысы пачаў праяўляць ахвоту да жыцця. Калі я тузануў яго павадамі, ён падняў галаву і нават пабег трушком. Праўда, трух гэты быў своеасаблівы: конь раўнамерна, пасля двух-трох крокаў, спатыкаўся. Я вельмі прагнуў спыніць гэту дэманстрацыю верхавой язды і зараз жа за варотамі, як толькі скрыўся ад вачэй конюхаў, перайшоў у маршавую паставу.

«Эх, ты, гора маё!» — думаў я, лаючы народнымі шадэўрамі і каня, і камандзіра, і салдацкае жыццё.

Але гора толькі набліжалася.

Сярод поля, калі размяшчэнне засталося далёка ззаду і наступаючы вечар падуў халодным дыханнем, мой рысак перастаў падпарадкоўвацца. Упёршыся ілбом у дарогу, ён прагна смактаў ноздрамі сыры пах зямлі.

Не памаглі ні ласкавыя просьбы, ні дубінка, якую я прыдбаў па дарозе. Лысы стаяў непарушна.

Я злез з каня і пачаў разважаць.

«Кінуць гэтае падла і далей ісці пяшком», — мільганула збаўчая думка. Але толькі мільганула: перад вачыма з'явіліся суровыя параграфы ваеннага закона і загналі яе ў цёмныя далі.

Адыйшоў я ўбок, сеў ля рова і скрунуў цыгарку.

«Хто каго!» — вырашыў.

На небасхіле віднеўся лес. Яго я павінен сёння прайсці навылет. А да лесу яшчэ некалькі кіламетраў. Не паспею да змроку. Успомніў, што днём гэты адрэзак дарогі прастрэльваўся немцамі.

«Што ж, так нават будзе бяспечней. Адпачнем, а сцямнее — рушым далей».

Але Лысы, відавочна, быў іншай думкі. Ён, скубаючы астаўшыміся зубамі прыдарожную траву, павярнуўся назад і пачаў памалу перасоўвацца ў бок, адкуль мы прыехалі.

«А калі б, на самай справе, вярнуцца ў размяшчэнне?.. Не, сябры высмеюць... Ды й «загад камандзіра — закон салдату!».

Устаў я, падыйшоў да каня, пагладзіў яго па сухім хрыбце, узяў за цуглі, павярнуў назад і, не адчуваючы супраціўлення, павёў па дарозе. Сядаць на Лысага баяўся, каб той зноў не пачаў баставаць. Быў задаволены, што паражняком ідзе.

Дабраліся мы да лесу ўжо ў поцемках. Ад дрэў нясло прэлым мохам і панурай цішынёй. Лысы спыніўся. Калі я наблізіўся да яго, ён палажыў мне на плячо свае храпы і дружалюбна залыпаў сумнымі вачыма. Я зразумеў, паміж намі заключана перамір'е.

Цяпер, без пытання, сеў я ў сядло і даў поўную волю каню. Кіраваць ім не было ніякага сэнсу: я не бачыў дарогі.

З'явіўся месяц. Лес прыняў іншы выгляд.

Я пачаў кідаць па баках трывожныя позіркі і нацэльваў свой аўтамат на сустрэчныя карчы. Мне здавалася, што некаторыя з іх рухаліся і я гатовы быў у любую хвіліну націснуць на спуск. У сваю чаргу я таксама чакаў выстралу. Мне стала ўсё роўна, адкуль ён будзе. Я толькі хацеў, каб гэта наступіла чым хутчэй.

А карчы рухаліся. І ніводнага гуку, найменшага шораху.

Раптам пачаў я лавіць нейкі дзіўны голас. Крык, не крык! Плач, не плач! Лес напаўняўся чалавечым шумам. Я напружваў слых, але нічога не мог разабраць.

Нарэшце шум пачаў збівацца ў моўныя камкі і мне ўдалося адрозніць паасобныя словы. Гэта была нейкая каманда. З кожнай мінутай яна расла і выразнела.

— Ле-вым флан-гам заходзі! — неслася здалёк.

І больш нічога. Каманда, перапынак і зноў каманда. Хоць бы галінка трэснула. Складалася ўражанне, што набліжаецца сам голас. Ніякіх прыкмет зямнога руху.

Я вырашыў таксама не рухацца. Зашыўся з канём у густыя карчы і пачаў бяздзейсна чакаць на суджаныя лёсам выпадкі.

А яны былі побач. Ахрыпелы голас, здавалася, вісеў ужо над табою.

Урэшце, метраў трыццаць ад мяне вываліўся на дарогу нейкі жывы клубок.

Яшчэ крыху, і я пазнаў: сержант Капач!

Ішоў басанож. Боты нёс у руках.

Уся напружанасць лопнула і я разрагатаўся на ўвесь лес.

Капач акамянеў.

— Вольна, сержант Капач! — сказаў я, выбіраючыся з карчоў.

Капач, апамятаўся, змяніў перапалох марсавым настроем і працадзіў скрозь зубы:

(Працяг на стар. 7)

**ЮРКА ЗУБРЫЦКІ**

## ЗМАГАРЫ

Плыве карабль, і мы не думаем,
Што ён нядаўна ўвесь дрыжаў.
І не ахвота нам займацца трумамі,
Пакуль бакоў іх не праесць іржа.

Салодкім сном, лухтой напоўнены
У падзеі хочам увайсці.
За месца ў іх свае спакойны мы,
Хоць бестурботны у жыцці.

Праз мёртвы зыб, пад сцягам-саванам
У свет пустынны мы брыдзем.
Не варты мы людскога слова нат',
Калі ўцякаем ад людзей.

● ● ●

**САКРАТ ЯНОВІЧ**

## ДОЧАНЬКА

Прыбяры, дочанька, хату, бо я, старая, змарылася. Пасяджу на лаве, няхай ногі адпачынуць. Буду вячэру гатаваць, каб бацька не сварыўся ад малацьбы прышоўшы. Падлі, дочанька, кветкі, бо павялі яны і без пары пасохнуць. Падарыла іх мне бабуля твая, калі я замуж выходзіла. Цвітуць вось кожнае лета колерамі харошымі. Падмяці, дочанька, сенцы, бо ж, глянь, Сяргеевы Юрак ідзе і мо' да нас зойдзе? Стройны які вырас ён, хоць у сваты выпраўляй зараз...

Куды бяжыш, дочанька? Вазьмі хустку, накінь на плечы, каб не прамерзла на вуліцы ветранай... Я сама ўжо як — небудзь прыбяру хату.



 

# НЕЗВЫЧАЙНАЯ СУСТРЭЧА

У цёмным калідорчыку будынка Мейскай рады нарадовай у Саколцы прыкмеціў я старэнькага мужчыну, які, абапёршыся на кіёчку, пазіраў на жалезную штангу і аграмадны замок пры дзвярах Аддзела Беларускага таварыства.

— Як гэта добра, што вы прыйшлі, я тут на вас ужо доўга чакаю, — адазваўся дзядуля, углядзеўшы, што я таксама спыніўся ля замкнутых дзвярэй.

— На жаль, я не маю ключа, я тут не працую, неўзабаве павінен прыйсці інструктар, — адказаў я раптоўна пасмутнеўшаму незнаёмаму.

Стоячы тут хвіліну, прыглядзеўся бліжэй субяседніку. На галаве меў кругленькую, выцвіўшую на сонцы, з маленькім казырочкам, шапку, з-пад якой выплывалі пасмы сівых, пажаўцеўшых ужо ад старасці валос. Валасы, апіраючыся аб прыгорбленыя плечы і каўнер паношанага, прагумаванага плашча, падвіваліся ўверх, быццам бы пазакручваў іх цырульнік сваімі вопытнымі рукамі. З-пад казырка сплывалі валасы па шчоках і апускаліся на запалыя грудзі ў выглядзе доўгай барады. Падкошаныя ў каленях ногі хаваліся ў шырокіх халявах старых ботаў.

Неўзабаве паявіўся інструктар, скрыгануў ключ у замку, адвалілася штанга, адчыніліся са скрыпам дзверы. Увайшлі мы да маленькага, з закратаваным акенцам і прагніўшай падлогай, пакойчыка. Пісьмовы стол з параскіданымі на ім часопісамі, старая бібліятэчная шафа, некалькі крэслаў, узоры беларускай народнай вышыўкі на сценах — гэта ўсё абсталяванне памяшкання Аддзела БГКТ у Саколцы.

Дзядуля цяжка апусціўся на крэсла і раптоўна закашляўся.

— Ох, гэты кашаль замучыць мяне, — адазваўся ён пасля некалькіх хвілін, ловячы адкрытымі вуснамі паветра. — Старасць не радасць, задыхаюся, відавочна недоўга ўжо мне давядзецца пажыць, — закончыў ён, цяжка ўздыхнуўшы.

— Колькі вам дзедка год? — запытаў я.

— Дык адгадайце, даражэнькі, — адказаў дзядуля, лагодна ўсміхаючыся.

— Мо' восемдзесят?

— Ох, даражэнькі, калі мне было восемдзесят год, я адчуваў сябе зусім добра. Ды і цяпер не магу спакойна сядзець у хаце. Вось бачыце, прыехаў я з суседам у Саколку, каб тут у вас дастаць нешта пачытаць у сваёй роднай мове. А мо' маеце «Дудку беларускую» ці «Смык беларускі». Чытаў я гэтыя зборнікі вершаў яшчэ ў мінулае стагоддзе, не памятаю нават іх аўтара, засталіся аднак у маёй памяці такія прыгожыя радкі:

«Кепска ж мая хатка,
падваліна згніла
І дымна і зімна, а мне
яна міла.
Не буду мяняцца, хоць
бы і на замкі,
Калок свой мілейшы,
як чужыя клямкі».

— Гэтыя словы, — працягваў дзядуля, — нагадваюць мне маю старэнькую хатку, у якой я адзінока пражыў жыццё і дачакаўся глыбокай старасці.

Узіраючыся ў маршчыністы твар дзядулі, у яго глыбока ўпаўшыя, памутнелыя вочы, ніяк не мог я разгадаць, колькі старэнькаму можа быць гадоў. Непакоіла мяне гэтае пытанне, з якім я ізноў звярнуўся да дзядулі.

— Колькі мне год? Даражэнькі, не адгадаеце.

Тут дзядуля сваю касцістую, жоўтую, як воск, руку сунуў у кішэню штаноў, адкуль выняў футляр для акуляраў, адчыніў яго, выцягнуў нейкую пісульку і падаў мне.

— Вось — чытайце.

Была гэта выразаная з «Нівы» інфармацыя, якую дзядуля насіў з сабою, быццам нейкі талісман. У інфармацыі сцвярджалася, што ён, Вінцук Захарка, з'яўляецца найстарэйшым чалавекам на Сакольшчыне. На маё здзіўленне, што дзядулі ўжо 98 год, а ён яшчэ даволі бадзёры, дзядуля парыўся ў партфелю і выняў адтуль пашпарт, у якім прачытаў я персанальныя даныя, што Вінцук Захарка нарадзіўся ў 1865 годзе ў вёсцы Залессе ў Сакольскім павеце.

З далейшай нашай размовы я пераканаўся, што дзядуля не пражыў дарма свайго жыцця. Ён прымаў актыўны ўдзел у рэвалюцыі 1905 года. Быў членам левай ППС, вёў агітацыйную працу сярод сялянства, у гады санацыі пагражала яму зняволенне ў Картуз-Бярозе. Мой цікавы размоўца паказаў яшчэ адзін дакумент, з якога вынікала, што за сваю рэвалюцыйную дзейнасць пастановай Рады Дзяржавы ад 5 чэрвеня 1957 года Вінцук Захарка атрымаў ордэн штандар Працы ІІ класа.

— Вось бачыце, — сказаў усміхаючыся дзядуля, — на старыя гады здзейсніліся мае мары. Наша народная ўлада належна ацэньвае людзей, не памінула яна і мяне, адзінокага, дажываючага ўжо свой век старэчу.

Пацікавіўся я бліжэй жыццём дзядулі. Расказаў ён мне, што крыўда яму не дзеецца. Атрымоўвае пенсію ад дзяржавы. Мае кароўку, якую гадуюць суседзі за карыстанне з яго невялікай гаспадаркі.

Прыслухоўваючыся да нашай размовы, інструктар Аддзела палажыў на стале перад дзядуляй кніжныя выданні БГКТ.

— Вось гэта можаце ўзяць, — сказаў ён.

Дзядуля выбраў дзве танчэйшыя кніжачкі, сунуў іх у кішэню, а апошнія звярнуў назад.

— Не магу я браць усіх, — адазваўся, — мо' неўзабаве памру і кніжкі змарнуюцца. Няхай таксама чытаюць іншыя. Калі прачытаю, дык яшчэ да вас прыеду.

На развітанне пажадаў я дзядулі сто год жыцця. І тут жа прыкусіў язык. А мо' дзядуля абразіўся? Прынамсі сто пяцьдзесят год жыцця жадаю вам — паправіўся я.

— Не, даражэнькі, — уздыхнуўшы, адазваўся дзядуля. — Цяжка хіба будзе дацягнуць да сотні, няма ўжо здароўя, сілы ўцякаюць, жыццё гасне, быццам сонейка заходзіць.

— Жадаю вам тады добрага здароўя, а гэта самае галоўнае, — сказаў я на развітанне.

Дзядуля падзякаваў і павольна вышаў з пакойчыка.

**В. Ш.**

**«Баллядына» Ю. Славацкага на вясковай сцэне.**

Фота З. Левандоўскі

# АБ'ЯЗДНЫ ТЭАТР АПРАЎДОЎВАЕ СВАЁ ІСНАВАННЕ

**(Працяг са. стар. 1)**

Бо фільмы, бо радыё, бо тэлевізія, дзе можна седзячы на ложку ў хаце пабачыць любую п'есу».



**НА ЗДЫМКУ:** плаваючы Дзяржаўны тэатр Мазавецкай зямлі.

Фота Р. Бранярэк

Гэтае непакоячае пытанне задаем дыр. Маршыцкаму.

— Тэлебачанне, — сцвярджае ён, — з'яўляецца свайго роду канкурэнтам тэатра. Аднак няма тут трагедыі. Калі ў першы момант пасля купілі тэлевізара нашыя былыя гледачы сядзяць каля тэлевізійнага экрана, хутка яны ізноў шукаюць непасрэднага кантакту з жывым акцёрам на сцэне. Тэлевізараў — таксама і ў вясковым асяроддзі — з кожным днём штораз больш, аднак лік гледачоў у нашым тэатры не памяншаецца, а наадварот — узрастае. Гэта нас цешыць і заахвочвае да далейшай працы.

На заканчэнне задаем дыр. Маршыцкаму пытанне, ці Тэатр Мазавецкай зямлі атрымоўвае дзяржаўную датацыю, ці знаходзіцца на ўласным разліку. У адказ дыр. Маршыцкі сцвярджае, што Тэатр утрымоўваецца з дзяржаўнай датацыі. Расходы Тэатра Мазавецкай зямлі большыя, а даходы меншыя чымсьці сталічных тэатраў. Даходзяць кошты транспарту, дэлегацыі. Вясковыя залы невялікія, цана білетаў ніжэйшая (8—15 зл), таму і даходы меншыя. Аднак наша дзяржава добра разумее, што тут вартасці невымерныя, якія не даюцца пералічыць на грошы.

— Даходзім з культурай да найбольш аддаленых мясцовасцей Варшаўскага ваяводства, да «забітай дошкамі» вёскі — і гэта самае галоўнае, сэнс нашай цяжкай, высокароднай працы. Варта працаваць для нашай вёскі, варта аддаць ёй усе свае сілы, веды, здольнасці, — сказаў на заканчэнне нашай размовы дыр. Маршыцкі.

— Так, варта і трэба працаваць для нашай вёскі, — сказаў я, працягваючы дыр. Маршыцкаму руку на развітанне.

**ВІКТАР ШВЕД**

## СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА БЕЗ ТАЯМНІЦ

# СІЛАС

Ёсць зверы і расліны вялікія і пышныя. Ёсць таксама і свет мікраарганізмаў — малы, прыкрыты таямніцаю, нябачны. Толькі тады, калі вока ўзброім у павелічальнае шкло 200, 500 ці 1 000 разоў, бачым, колькі жывых арганізмаў знаходзіцца ў адной кроплі вады.

Сярод мікраарганізмаў ёсць такія, якія нам шкодзяць і такія, якія памагаюць. Да групы другіх належаць бактэрыі малочнай ферментацыі. Менавіта яны выраблююць з цукраў, якія знаходзяцца ў корме, малочны квас, кансервуючы зялёны корм. Гніласныя бактэрыі, якія могуць развівацца ў наяўнасці тлену, у рэзервуары добра забяспечаным нічога не змогуць зрабіць.

Сіласаванне корму, гэта добры метад кансервацыі, выпрабаваны праз некалькі стагоддзяў. Першапачаткова (яшчэ ў старажытным Рыме) рабілі сіласы ў малых земляных ямах. Потым прышоў перыяд гігантаманіі, калі пачалі будаваць вялікія сіласныя вежы. Зараз прапагуюцца простыя, танныя і выгадныя рэзервуары паўтрывалыя або трывалыя. Калі іх няма, вазьміце прыклад з рымлян.

Закладанне сіласаў на Беласточчыне не з'яўляецца папулярным. Доказам гэтага можа быць той факт, што маем толькі 6 500 трывалых бетонных рэзервуараў, пабудаваных пераважна дзякуючы дапамозе дзяржавы. Гадавая прадукцыя сіласу выносіць у нас каля 200 000 тон, што хопіць для 1/6 часткі пагалоўя. Каб заспакоіць поўнасцю нашыя патрабаванні, мы павінны выпрадукаваць 1,2—1,5 мільёна тон сіласу.

Калі паедзем у дзяржаўныя гаспадарствы ў Юхноўцу і Рудцы, у вёску Янаў ці Хралавіцы там сустрэнем бетонныя сіласы. З'яўляюцца яны даволі каштоўнымі, але напэўна рэнтабельнымі. Хопіць сказаць, што іх трываласць аблічваецца на паўстагоддзе. Можна заквасіць корм у звычайных зямных ямах, прызмах, глінабітых сіласах, выкладаных каменнем, цэглаю, у кучах фармаваных пры дапамозе фетравых пліт, склеек, драцяной сеткі, або хаця саломы.



Добрая сенажаць — адна з галоўных крыніц даходу ў гаспадарцы. І таму кожную вольную ад іншых пільных прац хвіліну водная суполка ў Зубках, Беластоцкага павета, выкарыстоўвае на яе загаспадараванне.

Спосабы заквашвання аднолькавыя: на ніз даем 20—30 см сечкі, або мякіны. Добра было б ужываць сіласнай паперы. Моцна парэзаную зялёную масу трэба ўбіць вельмі моцна. Сілас прыкрываем саломаю, сечкаю, а потым даем пласт зямлі (30—40 см).

Ужо цяпер трэба падрыхтаваць рэзервуары да заквашвання ў іх сіласу. З гэтай мэтай чысцім іх, мажам кіслотатрывалымі сродкамі і белім. Рыхтуем таксама патрэбны дапаможны матэрыял і даезд да сіласу.

**Інж. М. СУХАЖЭБРСКІ**



# ПРАКТЫЧНЫЯ

**Жыхары вострава Туно (Данія) не захацелі будаваць спецыяльнага маяка. Але маюць яго. Апаратуру маяка заінсталявалі на вяршыне вежы мясцовага касцёла. Вось дзе гаспадарчы толк! (вл)**

## ВЕСТКІ З БССР

### 800 майстроў спорту

У Савецкай Беларусі пражывае звыш васьмі мільёнаў людзей. З іх пастаянна займаецца спортам звыш паўтара мільёна людзей. Амаль у кожным прадпрыемстве, інстытуце ці нават невялікіх вёсачках ёсць спартыўная каманда.

У распараджэнні беларускіх фізкультурнікаў звыш 40 стадыёнаў, 732 спартыўныя залы і 1313 камплексных спартыўных плашчадак. Беларускія спартсмены займаюцца 42 відамі спорта. 256 тысяч жыхароў рэспублікі — лёгкай атлетыкай, амаль столькі ж — лыжным спортам, 230 тысяч — валейболам, 86 тысяч — футболам. 144 тысяч людзей (ва ўзросце ад 7—70 год) займаюцца ў спецыяльных групах агульнай фізічнай падрыхтоўкі. Такі шырокі размах фізкультурнага руху ў Беларусі дазволіў спартсменам рэспублікі асягнуць выдатныя поспехі. Звыш 800 асоб маюць спартыўны тытул — майстра спорту СССР.

Фізкультурнікі Беларускай ССР паставілі перад сабой задачу — да 1965 года прыцягнуць да спартыўнага руху два мільёны людзей, або інакш кажучы кожнага чацвёртага жыхара рэспублікі.

### НОВАЕ БАГАЦЦЕ БЕЛАРУСІ

Геолагі вынайшлі яшчэ адзін скарб беларускай зямлі. У Касцюковіцкім раёне выяўлена месцанараджэнне трэпеля — вельмі каштоўнай сілікатна - карбанатнай пароды, якая мае вельмі малую вагу, высокую порыстасць (сітаватасць): амаль зусім пазбаўлена арганічных астанкаў. Трэпель выкарыстоўваецца ў шматлікіх галінах народнай гаспадаркі, для гукавой і цеплавой ізаляцыі, фільтравання, шліфавання і г. д. Пласт месцанараджэння касцюковіцкага трэпеля сягае 10—15 метраў, што дазваляе арганізаваць прамысловую распрацоўку залежаў. Прадугледжваецца, што запасы трэпеля сягаюць тут 50 мільёнаў тон.



Мінскі радыёвузел. Члены брыгады камуністычнай працы ў пакоі адпачынку Мінскага Палаца культуры прафсаюзаў.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ



Адзін з «Чорных дыямэнтаў» у выходным мундзіры: скураная куртка і эсэсаўская шапка.

# Ездакі чорнага (а хутчэй за ўсё бурага) дыямэнта

Існуюць ад 1955 года, у Таронта, іх галоўная кватэра змяшчаецца ў чатырохпавярховай камяніцы, якая знаходзіцца ў цэнтры горада. Афіцыйна выступаюць як маторны клуб. Іх матацыклёвыя кавалькады часта пасоўваюцца праз горад, згуртаваныя ў іерархічным парадку, на чале белы матацыкл шэфа з развінутым флагам.

Генры Паўль Барнс, таксама званы Джоны Самбрэра, з'яўляецца шэфам, галоўным камандзірам, гэтай з выгляду спартыўнай групы.

27 год, здаровы, магутны, крыху падобны да бочкі, корпус, які абапіраецца на кароткіх нагах, мае бараду і носіць клубны ўбор. Убор гэты — мешаніна эсэсаўскай уніформы і спартыўнага касцюма, з мноствам адзначэнняў і іншымі знакамі. Калісьці Барнс быў важакам нялетняга гангу, сёння кіруе самаўладарна паслушнымі яму ездакамі.

Чорныя дыямэнты — гэта маладыя хлопцы, выхадцы з тзв. нешчаслівых сем'яў, шмат сярод іх таксама жыхароў слюмсаў; з'ядноўвае іх патрэба пачуцця годнасці і ахвота штосьці значыць. Не толькі гэта і не толькі ўніформа прыводзяць на думку гітлераўскія баявыя дружыны. Ездакі з'яўляюцца фашысцкай арганізацыяй. Іх мэта — барацьба з камунізмам.

Метады дзейнасці гэтай групы такія самыя, якія мелі на пачатку гітлераўскія бурыя кашулі: скандалы і бойкі, парушэнне сходаў, тэрар. Ходзяць узброеныя ў палкі да крыкета, у багажніках сваіх матацыклаў возяць дадатковыя маторныя ланцугі, якіх ужываюць як зброю. Адзенне носяць у чорным і белым колерах, у гэтым чорныя кашулі, часта гітлераўскія адзнакі і свастыкі. Усе маюць бароды, а ў вушах завушніцы.



Самбрэра на чале калоны «Чорных дыямэнтаў».

Зараз пасля залажэння клуба мелі клопаты з Канадыйскай паліцыяй, але сёння аплаціліся ўжо палову свайго налічваючага 7 000 долараў бюджэту, і адносіны направіліся. Не выступаюць супраць паліцыі і паліцыя іх не праследуе, ёсць нават сярод іх тыя, якія працуюць для паліцыі.

Англійскі журналіст наведаў канадыйскіх фашыстаў у іх кватэры. Прынялі яго вельмі галантна, прымаў удзел у пасяджэнні клуба. Існуе ў ім вайсковая атмасфера, шэф рашае аб усім, не церпіць пярэчання і патрабуе абсалютнага паслушэнства. У час пасяджэння п'юць піва; шэф асабіста правярае прысутнасць, потым дае заданні. Усё гэта адбываецца з вялікаю павагаю.

Самбрэра прадставіў англійскаму журналісту сваю філасофію. «Людзі з правінцыі Антарыю хворыя. Але ўсё ў нашым грамадстве павінна быць здаровае і чыстае. Мы яму ў гэтым дапаможам. Мы чакаем на штосьці, я жадаю быць вялікім. Ведаю, што штосьці, урэшце, станецца і мы будзем да чагосьці патрэбныя».

На тэму сваёй улады сярод ездакоў — «Часам чуюся богам. Ведаю, што як скажу: забіце гэтага чалавека, яны заб'юць».

ЖАХЛІВА!

а(лів)

# СМЕРЦЬ НА ДНЕ АКІЯНА

Ад пачатку бягучага стагоддзя да моманту катастрофы амерыканскай падводнай лодкі «Трэшэр» занатавана каля 50 большых ці меншых няшчасцяў у глыбіні акіянаў. Гэтая статыстыка не бярэ пад увагу знішчэння падводных лодак у час ваенных дзеянняў. А лік іх вялікі. Самых нямецкіх падводных лодак за час дзвюх апошніх войнаў знішчана каля 1000 штук.

Першыя катастрофы з падводнымі лодкамі здарыліся ў 1905 годзе. У чэрвені патанула англійская лодка «А-8», а месяц пасля — французская «Фарфадэт», у якой на дно пайшло 14 матросаў. Да выбуху першай сусветнай вайны патанула яшчэ 3 французскія падводныя лодкі, 2 англійскія, руская, нямецкая і японская. Пасля заканчэння першай сусветнай вайны здарыўся зусім выключны выпадак. Па катастрофе англійскай падводнай лодкі «К-15» удалося выратаваць увесь яе экіпаж. На жаль, гэта адзіны выпадак у гісторыі падводных катастроф. Адначасова з наступаючым ростам велічыні падводных лодак лік загінуўшых людзей узрастае. У 1925 годзе ў японскай падводнай лодцы патанула 85 матросаў. Два гады пасля на дне акіяна знайшлі магілу 40 амерыканскіх матросаў. У 1932 годзе загінула 62 французскія матросы, а некалькі год пасля балючую затрату адчуў савецкі падводны флот, калі ў падводнай лодцы «В-13» гіне 55 матросаў.

1 чэрвеня 1937 года — у 10 гадзін раніцы выплыла з порта Ліверпаль новая англійская падводная лодка «Тэтіс». У 13 гадзін 40 мінут лодка схавалася пад воду і... больш ужо не выплыла. Загінула ў ёй 100 чалавек. Толькі чатыром матросам удалося выплыць на верх. А вось што гаварыў адзін з іх:

«Найбольш страшэнны момант перажылі мы ў чацвер вечарам, калі выявілася, што паварот на паверхню мора немагчымы. Экіпаж аднак не паддаўся настрою панікі. Мы намагаліся стварыць добры гумар, расказваючы сабе анекдоты. Толькі трох заламалася. Двох за ўсялякую цану намагалася дастацца на верх праз вежу. Пры гэтым пасцігла іх смерць. Трэці звар'яцеў і хутка памёр».

Толькі адзін раз удалося ратаўнічая акцыя. У 1939 годзе патанула амерыканская падводная лодка. З 53-асабовага экіпажа ўдалося выратаваць 33 матросы.

Героям катастрофы гэтай лодкі быў матрос Манес. Дзякуючы сваёй незвычайнай сіле, перамагаючы напор урываючайся да карабля вады, ён здолеў закрыць вадаадпорны люк.

— Калі я закрываў люк, — расказвае Манес, — пачуў крык — не зачыняць! Прапусціў яшчэ 5 сяброў. Пасля аднак зачыніў люк хоць ведаў, што на другім баку знаходзяцца матросы. Не мог я сабе пазволіць на спачуванне. Трэба было ратаваць большую частку экіпажа, якая знаходзілася на маім баку люка. Зрэшты, тыя матросы што засталіся за люкам, на маім месцы зрабілі б так сама. Ратункам гэтай падводнай лодкі кіравалі вышэйшыя афіцэры марскога флота ЗША. Перамерзнутым разбіткам падавалі ром і гарачую каву. Падаючы аднаму матросу кубак гарачай кавы і сардэчна абдымаючы яго рукою адмірал Андэрсон спытаў:

— Ну і што скажаш, сынку?

Выратаваны выпіў каву і адказаў:

— Каву дык вы робіце дасканалую, але падводных лодак будаваць не ўмееце...

Нейкі час таму назад увесь свет патрасла вестка аб гібелі амерыканскай атамнай падводнай лодкі «Трэшэр», у якой загінула 140 матросаў.

(а-вб)

Так выглядае матацыклавая калона «Чорных дыямэнтаў». Едуць сфармаваныя ў іерархічным парадку.

